


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№8 (161), ТРАВЕНЬ 2013 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Кожны жадае, каб яго інфармавалі чэсна, непрадузята, праўдзіва – і ў поўнай адпаведнасці з яго поглядамі**

***Гілбэрт Чэстэртон***

МЕРКАВАННЕ

## МЫ НАЗЫВАЕМ ГЭТА…

Мы называем гэта "Беларусь", яны называюць "клачок земли". Мы спяваем "Я нарадзіўся тут", яны – "Широка страна моя родная". Мы называем гэта "паўстанне Кастуся Каліноўскага", яны – "польский мятеж". Мы кажам "Мураўёў-вешальнік", яны – "талантливый администратор". Мы называем гэта "бальшавіцкі тэрор", яны – "это наша история". Мы называем гэта "этнацыд", яны – "перегибы на местах". Мы называем гэта "народны мемарыял у Курапатах", яны – "Бульбашъ холл". Мы кажам "страшная трагедыя Другой сусветнай вайны", яны кажуць "великая победа советского народа в Великой отечественной войне". Мы кажам "агульнаеўрапейская гісторыя", яны "линия Сталина". Мы называем гэта "права на памяць", яны – "несанкционированный митинг". Мы кажам "кніжкі па гісторыі", яны кажуць – "экстремистские издания". Мы ўсклікаем "Жыве Беларусь!", яны кажуць – "размахивал руками, ругался матом и выкрикивал антиправительственные лозунги". Мы называем гэта "наш бел-чырвона-белы сцяг", яны – "назарегистрированная символика". Мы называем гэта "дыктатура", яны кажуць "За стабильную Беларусь!".

Мы кажам "выбарны парламент", яны кажуць "каждая кухарка должна управлять государством". Мы кажам "недзяржаўныя грамадскія арганізацыі", яны кажуць "пятая колонна". Мы кажам "незалежная прэса", яны кажуць "нячэсныя журналісты". Мы пішам "у нас значныя праблемы", яны кажуць "дискредитация Республики Беларусь". Мы кажам "Беларусь у Еўропу!", яны кажуць "мы за цивилизованным миром наш народ не поведём".

Мы называем гэта "чарнобыльская трагедыя", яны – "мирный атом". Мы кажам "Астравецкая атамная станцыя – гэта злачынства!", яны кажуць "создание новых рабочих мест – это хорошо". Мы кажам "роўныя магчымасці на выбарах", яны – "избирательные комиссии сформированы из опытных людей". Мы кажам: "фальсіфікацыя выбараў", яны кажуць "наблюдатели от СНГ нарушений не зафиксировали". Мы кажам "мясцовае самакіраванне", яны – "вертикаль и генерал-губернаторы". Мы кажам "самабытнасць мястэчак", яны кажуць "развитие агрогородков". Мы кажам "гаспадарчы крызіс", яны – "скачок тигра". Мы кажам "развіваць малое і сярэдняе прадпрымальніцтва", яны – "давить, как вшивых блох". Мы кажам "новае прыгонные правы", яны – "контрактная система". Мы кажам "мадэрнізацыя эканомікі", яны – "пятилетку в четыре года". Мы кажам "шматвектарнасць развіцця", яны – "мы расшырым плашчадя, увеличым машчнасця". Мы кажам "Балтыйска-чарнаморскі звяз", яны – "А у нас российский газ і Каракас". Мы кажам "нацыянальная ідэя", яны кажуць "чарка і шкварка".

Мы кажам "Віфлеемская зорка", яны кажуць – "звёздочка октябрят", мы кажам "Хрыстос Уваскрос!", яны адказваюць "Нам уже доложили". Мы кажам "шматканфесійная краіна", яны кажуць "государство и церковь едины". Мы кажам "Не – смяротнаму пакаранню!", яны кажуць "террористический акт раскрыт рекордно быстро".

Мы кажам "бязвізавы ўезд", яны – "единое таможенное пространство". Мы кажам "адкрытасць межаў", яны кажуць "редкая птица долетит до середины Буга". Мы кажам "матчына мова", яны – "великий и могучий". Мы называем гэта "знішчэнне беларускай мовы", яны – "равноправие двух государственных языков". Мы кажам "ахова помнікаў архітэктуры", яны кажуць "упорядочение территории". Мы кажам "старая брукаванка", яны – "новая губернаторская плитка". Мы кажам "талака", яны "ленинский субботник". Мы кажам "давайце паставім хоць адзін помнік Льву Сапегу", яны – "У нас есть много памятников Ленину". Мы кажам "беларускі тэатр", яны кажуць "Славянский базар". Мы кажам "п'яны мужык", яны – "неустановленное лицо предположительно мужского пола, вероятно находящееся в состоянии алкогольного опьянения"…

У нас вельмі розныя мовы, светагляды і разуменні. І як нам далей жыць у такой краіне?..

***Уладзімір Хільмановіч***
**Беларускае Радыё Рацыя**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

## "ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ!"

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду!" працягвае ліставанне зпалітычнымі вязьнямі, выказваючы з імі салідарнасць. І заўжды атрымлівае ў адказ лісты са словамі падзякі за салідарнасць**

Каля ста лістоў за апошнія два гады даслаў палітычным вязням Леанід Гаравы, выказваючы падтрымку вязням, якія ўжо не першы год знаходзяцца за кратамі. Дэмакратычны актывіст штомесячна ліствуецца з Мікалаем Аўтуховічам, Міколай Статкевічам, Алесем Бяляцкім, Зміцерам Дашкевічам, Мікалаем Дзядком, а таксама дасылае віншавальныя паштоўкі іншым палітвязням.

Мікалай Статкевіч звычайна адказвае актывісту на паштоўках, каб менш працы было ў цэнзуры. Калі раней лісты да Статкевіча не праходзілі цэнзуры, то амаль паўгода ўсе лісты даходзяць да былога кандыдата ў прэзідэнты, які мае самы вялікі турэмны тэрмін зняволення – шэсць гадоў. У апошняй паштоўцы Мікалай Віктаравіч павіншаваў са светлым святам Божага Уваскрасення і пажадаў: "Хрыстос Уваскрос! Хай ён бароніць краіну нашу і нас!"

Найбольш актыўна ідзе ліставанне з Мікалаем Аўтуховічам, ваўкавыскім прадпрымальнікам, які за захаванне пяці патронаў атрымаў пяць гадоў турмы. У мужнага вязня ўжо пайшоў апошні год зняволення, які пачаў адлічваца з 8 красавіка. У апошнім лісце палітвязень цікавіцца кнігай Алега Груздзіловіча " Хто ўзарваў менскае мэтро". У лісце Аўтуховіч напісаў пра тое, што не верыць, што "гэтыя хлопцы, якіх ужо няма ў жывых, зладзілі гэтую справу. Шмат чаго гаворыць аб тым, што гэтыя хлопцы сталі, самі таго не ведаючы, вінцікамі ў гэтым механізме". Саму кнігу Мікола шчэ не чытаў і жадаў бы гэта зрабіць праз патрэбных людзей.

Адначасова з лістом ад вязні Леанід Гаравы атрымаў віншаванне з Днём Перамогі і ад маці Аўтуховіча – Лідзіі Юльянаўны з якой не аднойчы звязваўся, выказваючы ёй падтрымку. Дэмакратычны актывіст лічыць: "Наша незалежнае грамадства імкнецца да салідарнасці з палітвязнямі, але салідарнасць патрэбна і з блізкімі людзьмі палітвязняў."

Акцыю салідарнасці з палітвязнямі Леанід Гаравы плануе ладзіць да іх канчатковага вызвалення.

**Л. Антонаў**

ПРАВАВАЯ НЕПІСЬМЕННАСЦЬ

## ПАТАЕМНАЕ ЗНІШЧЭННЕ КЛЁНАЎ, ЯЛІН І ВАРВАРСТВА Ў АДНОСІНАХ ДА КАШТАНАЎ

**Гарадоцкі райвыканкам парушае заканадаўства аб выдаленні дрэў у Гарадку, не праводзячы сходаў прадстаўнікоў грамадскасці наконт плануемага выдалення аб'ектаў расліннага свету.**

Вясна 2013 году адзначылася ў Гарадку працягам незаконнага выдалення клёнаў, блакітных ялін, варварскай абрэзкі каштанаў, якое адбылося без грамадскага абмеркавання.

Пастанова Савета Міністраў №1426 "Аб некаторых пытаннях абыходжання з аб'ектамі расліннага свету" рэгламентуе працэдуру выдалення і перасадкі аб'ектаў расліннага свету ў населеных пунктах Рэспублікі Беларусь. Гарадоцкі раён знаходзіцца ў Беларусі, але гэты заканадаўчы акт не выконваецца Гарадоцкім райвыканкамам у вельмі істотнай частцы, якая датычыцца грамадскага абмеркавання намераў арганізацый выдаляць дрэвы ў населеных пунктаў раёна, у тым ліку і ў Гарадку.

Палажэнне аб парадку выдачы дазволаў на выдаленне раслінных аб'ектаў абавязвае Гарадоцкі райвыканкам і Гарадоцкі райсавет забяспечыць публікацыю паведамлення аб правядзенні схода аб плануемым выдаленні дрэў і г.д. у СМІ, а таксама пры наяўнасці сайта і ў сецыве.

Гэтай вясной у Гарадку былі зрэзаны прыгожыя клёны каля лазні па вул. Камуністычная, блакітныя яліны каля Гарадоцкага аграТэхнічнага коледжу, а таксама там каля коледжа ад варварскай абрэзкі пацярпеў 31 каштан. Пры гэтым ніякага паведамлення аб сходзе грамадскасці для абмеркавання плануемага выдалення клёнаў і хвоі у СМІ Гарадоцкі райвыканкам і райсавет не рабіў.

Ігнараванне меркавання грамадзянаў па выдаленню дрэў у Гарадку цягнецца ўжо не адзін год. Але кампетэнтныя органы ніякім чынам не рэагуюць на відавочнае парушэнне мясцовымі уладамі беларускага заканадаўства. Мо гэта небяспечна для праваахоўчых органаў?

Напрыклад у 2010 годзе без усялякага абмеркавання на Гагарына былі спілаваны 27 здаровых таполяў, але замест іх тут нічога не пасаджана ужо трэцці год. Прыкладна у той жа час былі спілаваны біярозы, клёны, ясені каля адміністрацыйнага будынка ААТ "Гарадоцкі райаграпрамзаб" і толькі гэтай вясной закладзена пасадка кволых дрэўцаў.

Пры ўсім тым, што Беларусь за цывілізаваным светам наш правадыр не збіраюцца весці, неабходна выконваць нормы беларускага заканадаўства па захаванню расліннага свету. Інакш розныя самаўпраўныя дрывасекі ў Гарадку праз дзесяцігоддзе не пакінуць ні клёнаў, ні каштанаў.

**Леанід Гаравы**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## НЕСУЦЯШАЛЬНЫЯ ВЫНІКІ ПЕРШАГА КВАРТАЛА

**Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў асноўныя паказчыкі развіццяГарадоцкага раёна ў першым квартале 2013 году. Гэтыя вынікі аптымізму не надаюць.**

Як звычайна статыстыцы паведамілі аб далейшым скарачэнні, як колькасці насельніцтва раёна да 24 206 чалавек, так і колькасці занятага ў эканоміці насельніцтва да 9 760 чалавек.

У прамысловасці справы у першым квартале пайшлі горш, чым у мінулым годзе і індэкс прамысловай вытворчасці склаў толькі 92,4% да мінулагодняга перыяду. Адначасова з гэтым выраслі запасы гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў з 300 млн. руб. да 900 млн. руб. і ў % да сярэднемесячнага аб'ёму прамысловай вытворчасці дасягнулі 6,1%.

На гэтым фоне трэба адзначыць прырост інвестыцый у асноўны капітал, які склаў 34,5 млрд. руб або амаль у паўтары разы больш, чым за мінулагодні перыяд. Пры гэтым удзельная вага машын, абсталявання, транспартных сродкаў у агульным аб'ёме інвестыцый дасягнула 42,4%, што амаль у два разы болей, чым за мінулагодні перыяд. Пры гэтым удзельная вага імпартных сродкаў вытворчасці вырасла з 8,9% да 42,7 %.

Але доля замежных крыніц у агульным аб'ёме інвестыцый у асноўны капітал склала незаўважныя 0,03%, а прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове за першыя два месяцы наогул не было.

Фінансавае становішча арганізацый Гарадоччыны за першы квартал гэтага года значна пагоршылася.Дэбіторская запазычанасць вырасла амаль у тры разы да 14,8 млрд. руб., а крэдыторская болей чым у тры разы: з 24,9 млрд. руб. да 88,4 млрд. руб.. Пры гэтым крэдыторская запазычанасць па падаткам і зборам, сацыяльнаму страхаванню вырасла ў 18(!!!) разоў з 351 млн. руб. да 5 800 млн. руб., а за паліўна-энергетычныя рэсурсы больш,чым у два разы – з 1 129 млн. да 2 741 млн. руб.

Пазітыўна спрацавала па аб'ёмах сельскагаспадарчай вытворчасці сельская гаспадарка: вытворчасць прадукцыі сельскай гаспадаркі ў першым квартале склала 103,1.%. Гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў у Віцебскай вобласці. Такі паказчык дасягнуты за кошт росту аб'ёмаў рэалізацыі жывёлы і птушкі, вытворчасці малака і яек.

Статысты таксама парадавалі лічбамі намінальнай налічанай сярэднемесячнай зарплаты – 3 млн. 200 тысяч рублёў. Як сцвярджаюць статысты гэта 120,7% рэальнай зарплаты да мінулагодняга перыяду.Толькі, як на гэтыя лічбы паўплывала зарплата работнікаў Гарадоцкага льназавода, якія не атрымліваюць прадуктамі – невядома...

**Л. Антонаў**

НА СТРАЖЫ ПАРАДКУ

# СТАЛА ЗЛОСНАЙ ПРАВАПАРУШАЛЬНІЦАЙ

**Пенсіянерка-настаўніца за паўгадзіны ў сваёй хаце стала злоснай правапарушальніцай, на якую участковы Леанід Кубрыцкі потым склаў тры адміністрацыйных пратакола.**

17 траўня ў суддзя Гарадоцкага суда Ганна Ігнаценка разгледзіла два адміністрацыйных пратакола ў адносінах жыхаркі в. Віраўля, якая абвінавачвалася ў дробным хуліганстве і непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы. Трэцці пратакол аб знявазе службовай асобы пры выканні ёй службовых паўнамоцтваў суддзя накіравала назад у Гарадоцкі РАУС на дапрацоўку.

Ганна Ігнаценка палічыла віну пенсіянеркі-настаўніцы даказанай у ходзе судовага паседжання і прысудзіла ёй штраф у 2 базавыя велічыні за дробнае хуліганства і 35 базавых велічынь за непадпарадкаванне агульнай сумай у тры мільёна сямьсот тысяч рублёў. Яшчэ пенсіянерку, якая трыццаць сем гадоў адпрацавала ў школе, чакае разгляд трэццяга пратакола, дзе штраф пачынаецца з 20 базавых велічынь – два мільёна рублёў.

У чым жа віна і вялікая шкода для грамадства настаўніцы, якая ў свае 58 гадоў "заработала" гіпертанію, цукровы дыябет і анкалогічнае захворванне? Чаму яе, добрую маці і становучую настаўніцу па характарыстыцы са школы і сельсавета, 26-гадовы участковы ў кайданках адвёз у Гарадоцкі РАУС, дзе і пратрымалі ноч, пакуль сын не вырашыў пытанне аб вызваленні маці ў начальніка міліцыі?

На гэтыя пытанні няма адназначнага адказу з тых тлумачэнняў, якія давалі ў судзе, як сведкі, так і участковы і "правапарушальніца".

Сама ж гэтая "эпапея" 19 красавіка пачалася з зусім нетрывіяльнай сітуацыі. У вокны дома пенсіянеркі пасля 16 гадзін сталі стучаць і патрабаваць выйсці двое маладых людзей – сястра і брат, якія прыехалі з Гарадка. Калі настаўніца выйшла, то даведалася, што гэтыя маладыя людзі 1988 і 1993 г.н., прыехалі з жаданнем забраць "Жыгулёнка", што стаіць на двары. У свае 58 гадоў, як ужо адзначана вышэй, настаўніца мае некалькі хранічных захворванняў і пакутвае на бяссоніцу. Бяссонная была і папярэдняя ноч, што штурхнула настаўніцу выпіць, каб паспаць днём. І толькі візіт нечаканых гасцей разбудзіў яе пасля кароткага сну.

Справа з аўтамабілем палягае у тым, што два гады назад яго прадаў муж пенсіянеркі, але натарыяльна прадажа не была аформлена – была узята распіска, што машына прададзена. Але новыя гаспадары на ёй зрабілі ДТЗ і аўтамабіль апынуўся ў Гарадоцкім ДАІ, адкуль яго ў сакавіку і забраў юрыдычны ўласнік. Прыехаўшыя маладыя людзі былі зусім не знаёмы гаспадарам і на руках не мелі ніякай адвольнай распіскі, што маюць нейкае дачыненне да "Жыгулёнка". Маладая жанчына заявіла, што сваю магнітолу з машыны яны забяруць і паспрабавала яе выцягнуць. У адказ на гэта гаспадыня забрала два тэлефона і патрабавала, каб выклікалі міліцыю. Пад час спрэчкі аб машыне з абодвух бакоў часам ужывалася ненарматыўная лексіка. Усё гэта адбывалася на двары каля машыны.

Прыезд участковага абодва бакі чакалі на вуліцы, а потым участковы прайшоў у дом гаспадыні, каб узяць з яе тлумачэнне аб здарэнні. З гэтага моманту ў двух бакоў гучалі розныя версіі развіцця падзей.

Пенсіянерка казала, пра тое, што ў хаце, калі яна выказала прапанову, каб участковы вёў сябе прыстойна і не крычаў, ён ужыў супраць яе фізічную сілу, паваліў на падлогу і надзеў кайданкі. Настаўніца прасілася, каб яе не везлі на ноч у РАУС -- яна і так дасць тлумачэнні, але участковы патрабаваў дастаўкі ў РАУС. Жанчыне стала кепска і муж яе зрабіў ёй укол інсуліна. Тым не менш, у кайданках участковы завёў яе ў машыну і даставіў у РАУС, дзе "хваліўся" трыма пратаколамі са штрафамі больш, чым на чатыры мільёна і тым, што ў яго ўсё "схвачана".

Па версіі Леаніда Кубрыцкага, ён прыехаў па вызаву, павітаўся, спытаў што здарылася, а калі жанчына двойчы папрасіла яго прадставіцца, то прадставіўся. Потым прапанаваў прайсці ў дом, каб атрымаць тлумачэнні аб сітуацыі з мабільнікамі. У хаце ён прысеў на тубарэтку, але жанчына выказала незадаволенасць тым, што ён рассеўся і адмовілася даваць тлумачэнні. Тады ён прыняў рашэнне даставаць яе ў РАУС, а яе просьбу аб тым, каб разабрацца на месцы праігнараваў, ужыў фізічную сілу і надзеў кайданкі. Потым іх зняў і прапанаваў ісці самастойна ў машыну.

Настаўніца працягвала ўгаворваць маладога чалавека не везці яе ў РАУС на ноч глядзя. Участковы зноў ўжыў сілу і адзеў кайданкі. Пры гэтым для доказу правамоцнасці сваіх дзеянняў вёў выбарачна відэа- і аўдыё- запісы.

Пасля другога вызвалення пенсіянерка выйшла да службовай машыны, але самастойна ў яе не сядала. Тады участковы запіхнуў яе на другое сядзенне, а сам пачаў заводзіць машыну. Калі жанчына паспрабавала выйсці з машыны, то з сядзення кіроўцы зноў надзеў на яе кайданкі.

Суддзя Ігнаценка пад час судовага паседжання задавала маладым сведкам, наводзячыя пытанні, каб устанавіць віну пенсіянеркі-настаўніцы. Пры адказах сведак былі супярэчанні, але іх выправіць суддзя не імкнулася. Таксама пад час судовага паседжання ніякім чынам не абмяркоўвалася законнасць патрабаванняў участковага на ноч глядзя весці хворую жанчыну ў Гарадоцкі РАУС і чаму двор і дом гаспадыні лічыцца грамадскім месцам. Не атрымала ацэнкі і законнасць візіту маладых людзей на дом гаспадыні і іх намер забраць аўтамабіль. Як кажуць, гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

Настаўніца-пенсіянерка яшчэ амаль месяц таму адразу пасля вызвалення з РАУС скардзілася ў Віцебск на гвалтоўныя дзеянні участковага. Пенсіянерка прайшла медэкспертызу на цялесныя пашкоджанні, але адказу на сваю скаргу яшчэ не атрымала. З прысудам жанчына не згодна і мае намер абскардзіць яго ў абласны суд з дапамогай адваката.

**Леанід Гаравы**

КРЫМІНАЛ

# ЗНОЎ СТАІЦЬ ПЫТАННЕ АБ КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЕ

**Супрацоўнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі затрымалі двух жыхароў в. Гуркі, якія займаліся браканьерствам.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі 16 мая работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыіна возеры Валнея, што размешчана на адлегласці аднаго кіламетра на паўднёвы захад ад в. Гуркі, затрымалі дваіх мясцовых жыхароў. Гэтыя жыхары ў перыяд абмежавання на вылаў усіх відаў рыб рыбачылі з дапамогай 6-ці стаўных сетак і адной сетнай пасткі - «нерата». Забароненыя прылады лоўлі і13 асобін розных відаў рыб агульнай вагой каля 6 кг канфіскаваныя.

Гарадоцкі РАУС зараз вырашае пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч. 2 арт. 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконная здабыча рыбы, якая пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры - 54 базавыя велічыні. Пакаранне па гэтаму артыкулу КК РБ прадугледжана самае разнастайнае: штраф, арышт, абмежаванне волі або пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў.

Гэта ўжо трэццяя крымінальная справа, якая распачанаецца ў гэтым месяцы па выніках рэйдаў супрацоўнікаў Гарадоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

**Т. Гаражанка**

АЎКЦЫЁН

# АТРЫМАНА ПРАВА АРЭНДЫ ТОЛЬКІ НА АДЗІН УЧАСТАК

**Са спазненнем больш чым на паўгадзіны адбыўся 21 траўня аукцыён у Гарадоцкім райвыканкаме за права арэнды двух зямельных участкаў падтурыстычную базу**

ККУП "Віцебскі абласны цэнтр маркетынга" выступіў арганізатарам аукцыёна па продажу права заключэння дамовы арэнды зямельных участкаў для будаўніцтва турыстычнай базы у водаахоўнай зоне, як возера Лосвіда (Вайханскі с/с), так і возера Белае (Гуркінскі с/с). Прыватным прадпрымальнікам і юрыдычным асобам прапанавалася ў арэнду на 99 гадоў зямельныя участкі без камунікацый у водаахоўнай зоне азёр плошчай каля 2 гектар. Пры гэтым першапачатковы кошт права арэнды у в. Малае Лосвіда Вайханскага сельсавета складае 9,187 млн. рубл., а арэнды участкі ў в. Сурміна Гуркінскага сельсавета 3, 164 млн. рубл.

Замест 15.00 аукцыён пачаўся ў 15.32 і цягнуўся каля пяці мінут з абвяшчэннем умоў яго правядзення.

Першым лотам быў участак у в. М. Лосвіда Вайханскага с/с на які прэтэндавала тры ўдзельніка аукцыёна. Крок аукцыёна складаў 15% ад кошту арэнды і літаральна за мінуту дасягнуў 24 млн. 437 тыс. руб, калі застаўся адзін жадаючы набыць арэнду за гэты кошт. Удзельнік пад №102 стаў уладальнікам права арэнды участка для будаўніцтва турыстычнай базы. Гэты ўласнік павінен кампенсаваць страты па сельскагаспадарчай вытворчасці у в. М. Лосвіда ў памеры толькі 2,647 млн. рубл, а таксама затраты арганізатараў аукцыёна на яго правядзенне і г.д.

На лот арэнды ўчастка ў в. Сурміно прэтэндаваў адзін удзельнік, але ён адмовіўся ад набыцця арэнды ўчастка з павышэнне яго кошту на 5%. Бо за арэнду гэтага участка коштам 3, 164 млн. рубл. трэба шчэ кампенсаваць 158, 139 млн. рубл страты па сельскагаспадарчай вытворчасці ды і размешчаны гэты участак далёка ад райцэнтра.

Чарговы аукцыён па маёмасці ў Гарадоцкім раёне адбудзецца ўжо 24 траўня ў Віцебску ў будынку "Віцебскаблмаёмасці". На аукцыён выстаўлены будынкі былога дзіцяга сада ў в. Мяжа, пачатковы кошт якіх зніжаны на 50%. За чатыры будынкі 40-х—70-х гадоў мінулага стагоддзя пачатковы кошт прапануеццаў 93,717 млн. рублёў. Зямельны ўчастак плошчай каля 50 сотак прадстаўляецца ў арэнду без правядзення аукцыёна і без платы за права заключэння дамовы арэнды.

**Л. Антонаў**

НАША БІБЛІЯТЭКА

# ПРЭЗЭНТУЕМ КНІГУ «ХТО ЎЗАРВАЎ МЕНСКАЕ МЭТРО?»

**Неабыякавыя грамадзяне ў рэдакцыі газеты могуць атрымаць для чытання кнігу Алега Грузьдзіловіча «Хто ўзарваў менскае мэтро?».**

Перад другой гадавінай тэрарыстычнага акта ў менскім мэтро ў «Бібліятэцы Свабоды» выйшла кніга Алега Грузьдзіловіча «Хто ўзарваў менскае мэтро?».

«Хто ўзарваў менскае мэтро?» — аналіз судовага працэсу над абвінавачанымі ў тэракце ў менскім мэтро, дзе 11 красавіка 2011 году загінулі 15 чалавек. У рэпартажы з судовай залі чуваць галасы падсудных і пацярпелых, аргумэнты абвінавачаньня і абароны, высновы экспэртаў, рэакцыя грамадзтва. Аўтар таксама дае асабістую ацэнку пабачанаму і пачутаму.

Ваўступным слове Аляксандр Лукашук, заснавальнік і каардынатар сэрыі, напісаў: "У тэракце ў менскім мэтро загінулі пятнаццаць чалавек.

Незваротная страта, непапраўная гора, нязбыўны боль. Двух абвінавачаных расстралялі. Лягчэй нікому ня стала — грамадзтва раскалолася, як рака ў крыгаход.

Гэта быў самы адкрыты і самы падрабязны суд такога маштабу за ўсю гісторыю Беларусі, зь беспрэцэдэнтным удзелам пацярпелых, замежных і айчынных экспэртаў, апэратыўнымі рэпартажамі і такой колькасьцю камэнтароў у інтэрнэце, якая засьведчыла, што свабода грамадзкай думкі існуе, нягледзячы на ўсе забароны.

Суду не паверылі, і гэта расплата за гады няспынных арыштаў грамадзянаў быццам за лаянку, быццам за супраціў, быццам за малую патрэбу, быццам за мітынг, быццам за падтакі, быццам за што заўгодна.

Калі няма даверу, нічога нельга выключыць. Калі нічога нельга выключыць, усё можна паставіць пад сумнеў. Калі ўсё можна паставіць пад сумнеў, няма мяжы паміж чорным і белым. Калі няма мяжы паміж чорным і белым, дабра не адрозьніць ад зла. Калі дабра не адрозьніць ад зла, зьнікае розьніца паміж законам і загадам. Калі зьнікае розьніца паміж законам і загадам, справядлівасьці не шукаюць у судзе. Калі справядлівасьці не шукаюць у судзе, узрываюць мэтро.

Не абавязкова ўзрываюць, не абавязкова мэтро — але вінаватых шукаюць заўсёды пад знакам «быццам».

Гэтая кніга — пра розьніцу паміж «быццам» і «насамрэч».

Бо розьніца ёсьць."

Для таго, каб атрымаць кнігу для чытання, звяртайцеся праз мэйл рэдакцыі або на тэл. +375296723842 (Вэлкам -- Леанід).

Спампаваць або замовіць кнігу на Радыё Свабода магчыма тут:

*www.svaboda.org/content/article/24954560.html*

«ПРАВАВАЯ» ДЗЯРЖАВА

# СЫНДРОМ БЯСХІБНАСЬЦІ

**У адной з кніжак пра сталінскія рэпрэсіі 1930-х гадоў у СССР мяне ўразіў такі выпадак. Адна хатняя гаспадыня прысьніла, што яна сьпіць з маршалам Варашылавым. На раніцу яна распавяла пра гэты свой сон на кухні камунальнай кватэры. Пасьля даносу ў органы яе арыштавалі і адправілі ў лягер. Гісторыя, як на тыя часы, пры ўсім сваім трагізьме досыць звычайная. Што ў ёй найбольш уражвае — гэта фармулёўка абвінаваўчага заключэньня: «За неэтычныя сны пра правадыроў». Чалавек, выходзіць, нёс крымінальную адказнасьць нават за свае сны.**

Тая гісторыя прыгадалася, калі прачытаў паведамленьне з хронікі сёньняшняга беларускага правасудздзя. «Пры канцы красавіка Менскі гарадзкі суд на закрытым пасяджэньні пастанавіў прызнаць былога дыспэтчара электрасетак Брагінскага раёну Мікалая Сілівончыка вінаватым у абразе прэзыдэнта і распальваньні нацыянальнай варожнечы, зьдзейсьненых у стане непрытомнасьці». То бок, з гледзішча беларускага суду, за дзеяньні ў стане непрытомнасьці чалавек нясе прававую адказнасьць.

Сумныя гістарычныя паралелі прышлі на розум і пасьля паведамленьня пра папярэджаньне журналісту нашага радыё Алегу Грузьдзіловічу, вынесенае Менскай гарадзкой пракуратурай. Дакумэнт вельмі дзіўны з гледзішча нават звычайнай логікі, ня кажучы ўжо пра прававую. Яго аўтары нават не паклапаціліся пра нейкае ўцямнае юрыдычнае абгрунтаваньне. З «Афіцыйнага папярэджаньня» так і не зразумела, за што яно вынесена, якія палажэньні якога закону парушыў журналіст.

Пасьля ўважлівага вывучэньня гэтага дакумэнту можна здагадацца, што Грузьдзіловічу закідаюць два парушэньні. Першае. У папярэджаньні гаворыцца: «Вы, зьяўляючыся журналістам Радыё Свабода, ажыцьцявілі акцыю па пранікненьні на станцыю мэтро „Фрунзенская“ з мэталічнымі прадметамі ў сумцы, якая нагадвае выкарыстаную арганізатарамі тэракту ў менскім мэтрапалітэне 10.04.2011. Па выніках праведзенага мерапрыемства Вамі на інтэрнэт-сайце www. svaboda.org разьмешчаны крытычны артыкул „Зь вялікай торбай у мэтро: з двух разоў праверылі адзін і ў торбу не зазірнулі“ зь відэасуправаджэньнем».

Узьнікае пытаньне: у чым тут парушэньне закону? У тым, што прайшоў у мэтро з мэталічнымі прадметамі? А які закон гэта забараняе? Ці ў тым, што надрукаваў крытычны артыкул?

Другі пункт — больш сур'ёзны. Аказваецца, у кнізе Алега Грузьдзіловіча «Хто ўзарваў менскае мэтро?» «ставіцца пад сумнеў аб'ектыўнасьць афіцыйных вынікаў расьсьледаваньня крымінальнай справы па факце выбуху ў менскім мэтрапалітэне, а таксама справядлівасьць беларускай судовай сыстэмы ў цэлым».

Зь якой гэта пары сумнеў у выніках расьсьледаваньня крымінальнай справы ці ў справядлівасьці судовай сыстэмы ў цэлым зрабіўся парушэньнем закону? Які канкрэтна заканадаўчы акт парушаны ў такім выпадку?

Увогуле, тэзіс аб бясхібнасьці дзяржаўных інстытутаў — гэта адна з галоўных прыкмет таталітарызму. Ці азначае гэта, што Менская гарадзкая пракуратура гэтым сваім папярэджаньнем юрыдычна замацоўвае ў Беларусі таталітарны лад? І ўвогуле, як можна казаць пра абсалютную аб'ектыўнасьць судовых прысудаў, калі шмат якія зь іх абскарджваюцца пракуратурай ці адмяняюцца судамі вышэйшых інстанцыяў?

Ці азначае гэта, што судзьдзі цяпер у Беларусі па-за крытыкай? І нават тыя, якія абвінавачваюць грамадзяніна за дзеяньні, учыненыя «ў стане непрытомнасьці»?

Ці можна цяпер крытыкаваць сяржанта міліцыі (што зрабіў Грузьдзіловіч у сваім артыкуле пра ахову мэтро), бо гэта будзе расцэнена як сумнеў у справядлівасьці беларускай міліцыі? А сьлесара-сантэхніка? Гэта ж замах на справядлівасьць сыстэмы камунальнай гаспадаркі!

Адмыслова для работнікаў менскай пракуратуры. Паводле сацыялягічнага апытаньня НІСЭПД, у верасьні 2011 году толькі 21,2% грамадзян верылі ў афіцыйную вэрсію тэракту ў менскім мэтро. А ў сьнежні 2012 году судам давярала 40,8% беларускага насельніцтва, а не давярала — 43,5%. Адпаведна, пракуратуры давярала 37,8%, а не давярала — 46,8%. Ці азначае гэта, што цяпер большасьць грамадзян будуць выклікаць у пракуратуру і рабіць ім афіцыйнае папярэджаньне за тое, што яны ня вераць у аб'ектыўнасьць і справядлівасьць беларускага правасудздзя?

У папярэджаньні таксама робіцца намёк, што Грузьдзіловіч працуе на Радыё Свабода, якое зьяўляецца замежным мэдыя. А прадстаўленьне замежнай дзяржаве заведама непраўдзівых зьвестак пра палітычнае, эканамічнае, сацыяльнае становішча Рэспублікі Беларусь, прававое становішча грамадзян РБ нібыта дыскрэдытуе краіну.

Але, па-першае, магчыма, у пракуратуры ня ведаюць, што беларуская служба Радыё Свабода вяшчае на Беларусь, а не на замежжа. І па-другое і самае галоўнае: нішто так не дыскрэдытуе Беларусь, як некаторыя дзеяньні беларускіх дзяржаўных органаў.

**Валер Карбалевіч**

БЕЛАРУСЬ - ЗША

# «БЕЛТЭХЭКСПАРТ» АБЯЛІЎ СЯБЕ ПЕРАД ЗША?

Тэрмін санкцыяў супраць «Белтэхэкспарту» скончыўся, а Дзярждэпартамэнт ня стаў іх працягваць.

На сайце Дзярждэпартамэнту, дзе зьмешчаны сьпіс прадпрыемстваў розных краінаў, супраць якіх ЗША ўводзілі санкцыі, пазначана, што апошні раз іх працягвалі супраць «Белтэхэкспарту» ў траўні 2011. Тэрмін дзеяньня санкцыяў скончыўся 23 траўня 2013, далей іх ніхто не пераглядаў, такім чынам «Белтэхэкспарт» ад 24 траўня аўтаматычна можа лічыць сябе вольным ад пакараньня.

Дзярждэп ЗША увёў санкцыі ў дачыненьні да «Белтэхэкспарту» 14 ліпеня 2010 году за парушэньне Акту аб нераспаўсюджаньні ў дачыненьні да Ірану, Паўночнай Карэі і Сірыі.

Як растлумачылі TUT.BY у «Белтэхэкспарце», пасьля ўвядзеньня санкцыяў кіраўніцтва кампаніі ўсчало актыўныя дзеяньні па абароне рэпутацыі: пачало пісаць звароты ў розныя юрыдычныя кампаніі, прыцягваць экспэртаў. У 2012 пакет дакумэнтаў быў накіраваны ў ЗША. Сёлета ў красавіку ў Вашынгоне адбылася сустрэча прадстаўнікоў «Белтэхэкспарту» з прадстаўнікамі Дзярждэпартамэнту, у выніку чаго, трэба меркаваць, да пытаньня санкцыяў было вырашана не вяртацца.

Санкцыі Эўразьвязу ў дачыненьні да гэтай кампаніі па-ранейшаму дзейнічаюць, як і ў дачыненьні да іншых кампаній, якія ў ЭЗ лічаць падкантрольнымі Ўладзімеру Пефціеву.

**«Радыё Свабода»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# РУХ «ЗА СВАБОДУ», «ГАВАРЫ ПРАЎДУ!» І ПАРТЫЯ БНФ ДАМОВІЛІСЯ АБ КААЛІЦЫІ

**Грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Рух «За Свабоду» і Партыя БНФ заявілі пра доўгатэрміновае стратэгічнае партнёрства. «Такога кроку дагэтуль беларуская апазіцыя не рабіла», — сказаў лідар «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 20 мая.**

Мэта партнёрства — палітычныя і эканамічныя змены ў Беларусі, што немагчыма без змены ўлады, падкрэсліў Някляеў.

Ён выказаў упэўненасць у тым, што стратэгічныя партнёры змогуць знайсці адказ і на пытанне аб тым, хто будзе адзіным кандыдатам у прэзідэнты на выбарах 2015 года.

«Гэта будзе чалавек, які прадстаўляе не толькі апазіцыю, але і большую частку насельніцтва, што выступае за перамены», — заявіў Някляеў, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года.

Паводле яго слоў, супрацоўніцтва разлічана прынамсі на тры найбліжэйшыя выбарчыя кампаніі — выбары ў мясцовыя саветы, прэзідэнцкія і парламенцкія выбары.

Як растлумачыў Някляеў, сёння было вырашана правесці сустрэчу трох арганізацый, таму што ў іх «ёсць дамоўленасці па ўсіх пытаннях». «У нас ёсць дамоўленасці і з іншымі арганізацыямі, але не ў такім аб'ёме. Але мы чуем усе іх прапановы — і адносна выбару адзінага кандыдата, і адносна фарматаў удзелу ў мясцовых выбарах», — падкрэсліў палітык.

У сваю чаргу лідар руху «За Свабоду», адзіны кандыдат у прэзідэнты ад дэмсіл на выбарах 2006 года Аляксандр Мілінкевіч заявіў: «Не трэба баяцца, што тут сядзіць не ўся апазіцыя».

«Калі б тут былі ўсе арганізацыі, мы маглі б загаварыць працэс. Мы доўга працавалі разам і выпрацавалі прапановы, якія, думаю, падтрымаюць усе», — сказаў Мілінкевіч. Ён таксама падкрэсліў: партнёрства не азначае стварэння адзінай арганізацыі.

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч выказаў упэўненасць у тым, што «разам будзе лягчэй адстойваць як палітычныя мэты кожнай арганізацыі, так і нацыянальныя інтарэсы Беларусі».

**Белапан**

СПАРТЫЎНАЯ ПЕРАМОГА

# СТАРАЯ ДОБРАЯ СКАЗКА

**Во втором финальном матче гандбольного Кубка вызова минский СКА уверенно взял верх над люксембургским «Эшем» – 32:24 (16:11) и стал обладателем трофея.**

Нет смысла подробно описывать незамысловатые перипетии конкретного матча: после выездной победы со счетом 31:26 сомнений в том, что армейцы завоюют Кубок, практически не было. Отметим лишь, что лучшими бомбардирами в составе СКА традиционно стали Борис Пуховский (9 мячей) и Сергей Шилович (6).

Поговорить хочется о другом. В восьмидесятые годы прошлого столетия минский клуб был сильнейшим в мире. Тогда СКА собрал коллекцию из трех Кубков европейских чемпионов и двух Кубков обладателей кубков.

Увы, времена, когда белорусы доминировали на международной гандбольной арене, канули в Лету. Казалось, безвозвратно. Наши сборные клубы стали даже не середнячками, а порой весьма удобными соперниками для других.

Но творец успехов тридцатилетней давности Спартак Миронович в этих безнадежных условиях продолжал кропотливо делать свое дело. Из подручного материала он раз за разом пытался собрать работающий механизм.

И накануне 75-летия удача улыбнулась Спартаку Петровичу. Нет, не так – судьба воздала должное. Нынешняя победа стала результатом многолетнего труда, а не капризом Фортуны.

Конечно, Кубок вызова – это не Кубок европейских чемпионов. Но и в этом турнире у белорусских клубов уже много лет не было не только триумфа, но хотя бы сопоставимых с ним результатов.

Банально, но, чтобы добиться больших побед, мы должны научиться ценить и меньшие по размерам. Так что, ныне стоит порадоваться за СКА и Спартака Петровича.

Команда в нынешнем виде просуществует буквально пару недель. Уже 29 мая СКА на «Минск-Арене» ждёт битва за звание чемпиона Беларуси со столичным «Динамо». Затем еще скоротечные кубковые сражения – и всё, сезон завершен. А по его окончании команду покидает трио лидеров: Борис Пуховский, Сергей Шилович и Александр Титов.

Но Спартак Петрович не унывает и не собирается на покой. В интервью TUT.BY он говорит:

– Ничего страшного. Будем играть молодыми, готовить их к сборной. За свою историю СКА не раз приходилось ставить подобные задачи, возможно, в ущерб спортивным результатам. Собственно, мы и теперь не отступаем от своих принципов, работаем на главную команду страны. А побеждать хотим всегда.

Великий тренер сохраняет не только присутствие духа, но и чувство юмора. В ответ на просьбу подвести итог последних пяти лет констатирует:

– Ну что тут сказать. Я до сих пор жив. Назло надменному соседу по даче.

Даже в самых, казалось бы, безнадежных ситуациях нельзя опускать руки. В этом заключается последний урок старого Мастера.

**Александр Старикевич**

СУБСІДЫІ ДАРМАВЫЯ?

# ЭНЕРГЕТЫЧНЫЯ СУБСІДЫІ РАСІІ Ў $ 10 МЛРД

**Беларусь за кошт ільготных коштаў на энергарэсурсы атрымала ў 2012 годзе ад Расіі субсідый на суму каля 10 млрд долараў. Да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

"За кошт ільготных коштаў на энерганосьбіты Рэспубліка Беларусь ў 2012 г. зэканоміла каля 10 млрд долараў", - сказана ў артыкуле вучоных "Перспектывы функцыянавання эканомікі Беларусі ў сістэме АЭП і СГА", апублікаванай у ведамасным часопісе Нацбанка РБ "Банкаўскі веснік".

Эксперты інстытута адзначылі, што сума энергасубсідый складаецца за кошт механізму бяспошліннай пастаўкі нафты ў Беларусь і льготнай цаны на расейскі газ.

У мінулым годзе Беларусь атрымала 21,3 млн. тон бяспошліннай расійскай нафты, выплаціўшы ў бюджэт РФ пошлін з экспартуемых нафтапрадуктаў на суму 3,8 млрд даляраў. "Калі ўлічыць, што пры пошліне на нафту ў канцы 2012, роўнай 396,5 даляра за тону, выплаты ў расійскі бюджэт склалі б каля 8,4 млрд. даляраў, выгада склала каля 4,6 млрд даляраў", - робяць выснову эксперты Інстытута эканомікі.

Ацэньваючы субсідыі пры пастаўках прыроднага газу, эксперты суаднеслі фактычную цану для Беларусі з коштам паставак ва Украіну. Сярэдняя цана на газ з Расіі для Беларусі ў мінулым годзе склала 168 даляраў за 1 куб. м. "Калі параўнаць з коштам для Украіны, роўнай каля 430 даляраў за 1 куб. м, то пры імпартавала аб'ёме, роўным 20,3 млрд. куб. м, выйгрыш склаўся ў памеры каля 5,3 млрд даляраў", - гаворыцца ў артыкуле .

Такім чынам, толькі за кошт ільготных коштаў на энерганосьбіты Беларусь у 2012 годзе зэканоміла каля 10 млрд долараў.

Разам з тым навукоўцы заклікаюць ўлічваць той факт, што "згодна са сваім абавязальніцтвам перад Сусветнай гандлёвай арганізацыяй (СГА) Расія пасля заканчэння пераходнага перыяду будзе абавязаная прадаваць энергарэсурсы па сусветных цэнах, а гэта непазбежна павысіць затратнасць ўсіх галін народнай гаспадаркі".

10 млрд даляраў для беларускай эканомікі даволі істотная сума. Дастаткова сказаць, што аб'ём ВУП Беларусі ў 2012 годзе склаў 63 млрд даляраў. Акрамя таго, сальда бягучага рахунку плацёжнага балансу склалася адмоўным у памеры 1,8 млрд даляраў.

У цяперашні час Мінск і Масква вядуць перамовы з нагоды павелічэння паставак нафты на беларускія НПЗ у трэцім і чацвёртым кварталах 2013 года. Урад Расіі падрыхтаваў ліст беларускаму боку пра нежаданне ўзгадняць дадзены аспект. Прычына - у зацягванні рэалізацыі сумесных інтэграцыйных праектаў.

**www.tut.by**

ТАКІ ТУРЫЗМ

# ЯК "ГАЗПРАМ" ПАГУДЗЕЎ Ў ВІЦЕБСКУ

**"Газпрам" праводзіў свой чарговы штогадовы карпаратыў ў ціхім, утульным Віцебску. Ад таго, як прывыклі адпачываць расейцы, у беларусаў валасы на галаве ўстаюць дыбам.**

14 мая ў Віцебску пачаўся тыднёвы фестываль "Газпрама" "Паходня". Расійскі газавы манапаліст раней "запальваў" у Геленджыку, але з тых часоў, як Беларусь прадала суседу сваю газавую трубу, вырашыў паспрабаваць павесяліцца тут.

Аляксею Мілеру і іншым кіраўнікам спадабалася. Кіраўнік "Газпрама" наватзаявіў, што адчувае сябе ў Віцебску "як дома". Яно і зразумела: Віцебск спецыяльна для гэтых дарагіх гасцей (якіх, дарэчы, звезлі ў Віцебск ў колькасці амаль чатырох тысяч) адрамантаваў некалькі канцэртных залаў, падправіў дарогі, пачысціў вуліцы і паркі. "Газпраму" нават далі магчымасць завешаць увесь горад сваімі бігбордамі і банэрамі над праспектамі. Гасцей асабіста сустракаў і віншаваў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Мілер так ўразіўся, што паабяцаў: ўсе наступныя свае фестывалі будзе праводзіць менавіта тут, у культурнай сталіцы Беларусі.

Так што цяпер у Віцебска цэлых два важных гарадскіх свята - "Паходня" і "Славянскі базар". Прычым, які з іх апынецца важнейшым, яшчэ вялікае пытанне.

У гэтым годзе карпаратыўны фестываль надзвычай моцна падняў на вушы мясцовых жыхароў. Беларусы ніяк не могуць прыйсці ў сябе пасля таго, як на свае вочы пераканаліся, што робіць з адпачывальнікамі газавікамі лішак сродкаў і асаблівасці ці то наварускай, ці то карпаратыўнай культуры.

У Віцебску, у якім ніхто ніколі не ведаў ні коркаў, ні праблем з паркоўкамі, мясцовыя аўтамабілісты адчулі сябе, як падчас "Славянскага базару".

Горад запоўнены групамі нецвярозых мужчын і жанчын, прыбраных у сінія карпаратыўныя майкі. Госці ўжо цалкам асвоіліся і адчуваюць сябе нашмат лепш, чым дома. Нягледзячы на тое, што самім беларусам піць у цэнтры горада піва як нельга было раней (вось ужо некалькі гадоў), так і цяпер, міліцыя да "блакітных" ставіцца абыякава. Кажуць, "зверху" была спушчана каманда -- гасцей не чапаць. "Даўнютка я не бачыў людзей, каб свабодна цягаліся па горадзе з півам", - дзівіцца на адным з гарадскіх форумаў мясцовы жыхар.

Ва ўсіх цэнтральных крамах абласнога цэнтра бесперапынна купляюць алкаголь: пенсіянеры ўжо не могуць без праблем купіць хлеба і малака. "Людзі ўжо не ходзяць у крамы кожны дзень, а аддаюць перавагу "затарыцца" адразу на ўвесь тыдзень: і шанцаў "атрымаць па мордзе ад п'янага менш", і кучу часу на стаянне ў чэргах марнаваць не трэба, прызнаўся карэспандэнту "Росбалта" Вадзім Траццякоў, 28 -гадовы мясцовы жыхар.

Расейцы зараз, сапраўды, ганяюць па Віцебску, як вар'яты. Даішнікі дазваляюць ім не толькі паркавацца на тратуарах (мясцовыя не дазваляюць сабе нават выкарыстоўваць для гэтага бардзюры), але і парушаць хуткасны рэжым, ездзяць на чырвоны. Часцей за ўсё даішнікі проста "папярэджваюць" ліхачоў, а штрафы выпісваюць вельмі неахвотна.

Аўтамабілісты скардзяцца, што ў горадзе нават стала праблематычна з'ездзіць на аўтамыйку: некаторыя з іх расейцы сталі выкупляць цалкам на тыдзень - каб не стаяць у чэргах.

Або вось выпадак. У цэнтры горада аўтамабіль з расейскімі нумарамі і сцягам "Газпрама" рассякаў прама па тратуары, а яго кіроўца і пасажыры ніяк не маглі ўзяць у толк, чаму мясцовыя ня разбягаюцца і дарогу не саступаюць. Кажуць, ледзь не дайшло да рукапрыкладства. Супрацоўнікі міліцыі, якой не вуліцах горада поўна, на сітуацыю ніяк не рэагавалі.

Беларусаў, якія не якія звыкнуліся да маёмаснай і каставай сегрэгацыі, раздражняе і той факт, што горад "гудзе" ўвесь тыдзень, а іх на гэтыя канцэрты ніхто не запрашае. "Газпрам" у якасці "прэзента" паабяцаў пускаць усіх жадаючых толькі на адзін канцэрт, на якім выступяць J: МОРС, "Воплі Відаплясава", "Zdob Si Zdub". На ўсе астатнія мерапрыемствы - уваход строга па запрашэннях. Нават білеты не прадаюць.

Адзін мясцовы жыхар здзіўляецца: "Узялі так пацаны і па прыколе горад знялі на тыдзень! Хутка купяць назусім! Вось тады зажывем!". Сапраўды, на гэтым свяце жыцця гараджане адчулі сябе чужымі. Ні ў адзін рэстаран, кафэ або парк схадзіць адпачыць на гэтым тыдні нельга: усюды маса п'яных газавікоў, якія, як сцвярджаюць карэнныя жыхары, часам паводзяць сябе вельмі агрэсіўна.

Зараз у краіне то тут, то там ўспыхваюць гарачыя спрэчкі: а ці трэба наогул радавацца рэзкаму павелічэнню расійскіх турыстаў? Адны кажуць, што гэта добра: людзі грошы ў краіну прывозяць. Іншыя абураюцца: прыбытак разбяруць па кішэнях вярхушка і бізнес-эліта, а хамства прыходзіцца цярпець пераважна насельніцтву.

Чакаць, што расійскі турыст стане цішэй, спакайней і ветлівей, мяркуючы па яго паводзінах у Турцыі, Егіпце і Тайландзе, пакуль не прыходзіцца. Бо гэтыя паводзіны амаль не залежыць ад таўшчыні кашалька.

**Максім Швейц**
**www.rosbalt.ru**

ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ – ХАКЕЙ

# ОЧЕРЕДНОЕ ПОЗОРИЩЕ

**Я редко соглашаюсь с Александром Лукашенко. Но в данном случае готов подписаться под его словами.**

Давеча глава государства признался, что ему стыдно за белорусский хоккей. «Это – позорище», – заявил Лукашенко.

И тут не поспоришь. На чемпионатах мира сборная Беларуси третий год подряд занимает 14-е место – притом, что еще недавно стабильно боролась за попадание в первую восьмерку.

А чем в это время озабочено хоккейное руководство? Оно занято тем, чтобы не допустить появления на трибунах бело-красно-белых флагов!

Вскоре после назначения нынешнего председателя федерации хоккея Евгения Ворсина Александр Лукашенко напутствовал его: «С чехами нам надо играть на равных, у финнов вы запросто можете выигрывать… Почему мы говорим о результатах Словакии, как о чем-то недостижимом?.. Или о результатах Швейцарии, которая еще вчера вообще в хоккей не умела играть?»

С тех пор прошло всего три года. Наше хоккейное хозяйство, возглавляемое флагоборцами, захирело до такой степени, что национальная сборная проигрывает не только Швейцарии, но и Франции, Дании, Норвегии… Какие уж там победы запросто над финнами! Иногда удается у Словении выиграть, но тоже уже не всегда.

А между тем, если кто забыл, на следующем чемпионате мира, который состоится в мае 2014-го, сборной Беларуси была поставлена задача попасть в тройку призеров. Сейчас это уже выглядит, как анекдот – помыслы уже скорее о том, как бы не опростоволоситься и не вылететь из элиты на глазах у собственных болельщиков.

Случившееся с белорусским хоккеем весьма символично. Этот вид спорта возвели в культ, поскольку им увлекся глава государства. Как следствие, на развитие хоккея не жалели ни денег, ни административного ресурса. Но после некоторого периода относительного благополучия и стабильности на выходе получился пшик и кризис. Позорище одним словом.

Это определение вполне подходит и к истории с участием дружины Лукашенко во Всероссийском фестивале по хоккею среди любительских команд в Сочи. На этот турнир наши любители побеждать поехали, имея в составе аж 10 профессиональных игроков.

Такая тактика давно приносит успех президентской команде. В регламенте домашнего рождественского турнира среди любителей для неё сделана эксклюзивная поблажка, допускающая участие не более 6 игроков, участвующих в открытом чемпионате Беларуси по хоккею (то есть профессионалов). Но и это правило не соблюдается. Например, в 2012 году за команду Лукашенко выступали сразу 9 действующих хоккеистов. Мудрено ли в таких условиях занять первое место?

Но что дозволено в Минске, то не дозволено в Сочи. Там команде Belarus просто засчитали техническое поражение. Разобидевшиеся «любители» покинули турнир со скандалом.

Если бы выборы в Беларуси судили честно, то Лукашенко и там ждала бы дисквалификация. Но, увы, здесь царит игра без правил, в которой главный арбитр публично называет себя «членом команды президента».

Однако сколько веревочке ни виться, закончится всё как в сказке (и хоккее) – разбитым корытом. Ни один Кощей не побеждает вечно.

**Вадим Ливнев**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.05.2013 у 19.20.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.